*Ганна Матусэвіч*





Вершы

Койданаў 2013

## *ЗЬМЕСТ*

**Устань,**
**Асьвечаны Боскай воляй,**
**Народ!**
**Бо западлы твой дух.**
**Бы ў рэанімацыі,**
**Стаім над тваею пасьцеляй**
**Ноч і дзень**
**У працы бясконцай**
**Нашых душ.**

## *ВЕЧАР У ЧУЖЫМ МАГІЛЕВЕ*

Восень. Птушкі ляцяць над горадам.
Разам зь імі і я палячу.
Дзесь прагрукаў цягнік
запылёны, здарожаны.
Усьлед за ім адсюль зьехаць хачу.
Бухматы туман навісае над горадам,
Дагарае на захадзе стужка
стамлёнага дню,
Запаліліся зоркі ўгары над
асьветленым “Космасам” –
Мне адной ні спакою, ні сну.
Там, унізе, гудзе ўсё і круціцца,
Тут ляжаць цішыня і спакой.
На пагляд так. Нутро ж і віруе, і муціцца,
Бы хтось паліць душу вагнём.
У ва сьне так цяжкім бывае:
Крыкнуць хочаш - і не закрычыш,
Жах нявольнае цела зьвівае,
Ты над прорваю страшнай ліпіш…
Зьнікне горад з агнём вечаровым
І сьцюдзёным такім, і чужым.
Згіне ліха, застанецца верш заімглёны
На ўспамін аб тым смутку душы.

Напісана па-расейску ў 20 гадоў,
перастворана па-літоўску ў 1997 годзе.

## ***СЭРЦА***

Ні рэўнасьці, ні зайздрасьці, ні злосьці
Ні да каго німа.
Адно:
Разгубленасьць, жуда і боль…
За скарбы ўсе мне даражэй на сьвеце
Самота, цішыня, спакой,
Ня трэба словаў!
Нат спачувальныя, яны калечаць слых
І абражаюць Музыку Спакою.
Людзей я зразумею без навукі моваў,
Бо скажуць болей мне
Пагляды, твары, рукі…
Нібы вяшчуньня,
Я спасьцігла мудрасьці вякоў;
Як перад сконам,
Мне ведама адной якаясь таямніца…
І, абцяжараная ведамі, іду на дно,
І не магу ўтапіцца.

…Сьвядомасьць птушкай прылятае да мяне…
Прашу:
Падоўжыся, мой сон!
Ды не.
І цягнецца пакутлівая ноч бясконца,
І я ўжо ня веру, што яна калі-небудзь засьне.

Напісана па-расейску ў 21 год,
перастворана па-літоўску ў 1997 годзе.

## ***БЯЗЬМЕЖЖА***

Я на Зямлі жыву анахарэтам,
Чужой і людзям, і самой сабе,
Падкіданкай зь іной плянэты
Зь зямным што лёсам чэзьне ў барацьбе.

Туманны дзень, туманнасьць Андрамэды…
Забыты сон, на вуснах сьмех,
І радасьць немаўляці, узьлёт над сьветам –
Зьнянацку асьляпеньне й забыцьцё сярод уцех.

Сьвядомасьць нікне, чорны змрок Сусьвету…
Ашмоткі думак, трызьневых ідэй…
І голас незямны: “Яна з Паэтаў!”,
І сьцюжа крыгай да касьцей.

Прымроілася, пэўне ўсё прысьнілася!
Дачка Зямлі, народжана я тут!
Ды Голас незямны і змрок пустэльні не забыліся,
І ў дзень туманны вечнасьць стуліць да пакут.

Напісана па-расейску ў 22 гады,
перастворана па-літоўску
ў кастрычніку 1997 году.

***КАХАНЬНЕ***

*«Вера - это великое дело.*
*Это больше, чем победа на фронтах...*
*Берегите детей!»*

*З размовы ў электрычцы.*

Табе я не дарую ані слова, ні пагляду,
Хлусьні дзе будзе, здрадніцтва пылок.
Як на ружанцы пацеры штовечары,
штораніцы сьцьвярджаю:
Жыць чыста, мудра, што ракі выток.

Сыходзіш ты... Ну што ж, ідзі.
І як даўней, цябе я не паклічу.
Табе ня трэба гэта мусіць у жыцьці,
А я кахаю чыстага, табе таго ня зычу.

Табе я не дарую ані слова, ні пагляду,
Хай будзе шчасна адзіноту мне сьцярпець.
Як на ружанцы пацеры
штодня сьцьвярджаю:
Прыўкрасна жыць, як песьню пець!

Напісана па-расейску ў 24 гады,
перастворана па-літоўску 14.X.1999

## ***ПАЭТУ***

*Майму першаму Каханьню ахвярую.*

Дух Лермантава ходзіць па Машук
Ад мейсца суджанай дуэлі.
На мне заціснуўся пятлёй яго апошні круг…
Нібыта не ў яго - у мяне ляцелі кулі!

У васірацелы дом яго заходжу, як у Храм,
І настальгічна захацелася маліцца,
І моцна верылася: я ня дам
Яму ляжаць пад ліпеньскім тым ліўнем!

Мяцежныя і мудрыя жыцьцёвыя радкі
Сумуюць у ва мне, кахаюць, плачуць, тужаць.
І разумею, што мае радкі-нататкі
Дзеля сябе - хай крытыкі ня судзяць!

“Ты бачыш, цьвёрдая твая малітва!” -
Сказаў мне сябра сьмехам добрым.
Мой юны Бог у бронзу ўліты
Сто год як сузірае горы.

І Шат-гара - два одиноких паруса
Белеет в ясную погоду.
Тут геній быў і геніяльна напісаў
Аб мужнасьці, аб вечнасьці, о звездах.

Напісана па-расейску 18.V.1981,
перастворана па-літоўску 29.IV.1999.

## ***ЛІЦЬВІНКА***

*А Літва - гэта Сусьвет, як і Маці...*

О, як брыдка рагоча юнасьць!
І як старасьць пляткарыць аб гзтым!
Як сьцюдзёна, самотна і вусьцішна,
Нібы студзень цяпер ды ня лета!

Нехта плюне зьняважліва ўсьлед,
Пракляне быццам: так ёй і нада!
А яна толькі злы гэты сьвет
Абагрэе дзіцячым паглядам.

І вечная туга паселіцца ў вачах,
Пазначаных плянэтай нетутэйшай,
І жабраком прытуліцца к ёй страх
За ненароджанае шчэ жыццё найпершае.

Заплача маці з жалю па дачцэ,
Хоць ёй не зразумець даччыных думаў…
Ды сьлёзы высахнуць на матчынай шчацэ,
А думы не загояцца ад думаў.

І да пякельных мук душы і цела
Прылашчыцца захоча сьмерць сваёй рукою,
Ды новае жыццё зацепліцца нясьмела,
І можа нехта назаве яе Сьвятою.

Напісана па-расейску 08.III.1982,
перастворана па-літоўску 28.IV.1999.

**<u>АДАМ МІЦКЕВІЧ</u>**

## СЬНІЛАСЯ ЗІМА...

*Мей сон у Дрэздане 1832, марца 23,*
*каторы цёмны і для мяне незразумелы.*
*Устаўшы, запісаў вершам. Зараз,*
*1840, перапісваю для памяці.*

Сьнілася зіма, быццам бег я па сьнезе,
За працэсыяй у доўгім шарэзе.
Нібыта ідзем мы на бераг Ярдану,
І згары пагалоска: “Хвала Пану!
Спакой тром каралям, люд! да Ярдану!”
Людзі абок мяне йшлі двума радамі,
Старцы, кабеты і дзеці у пары.
Тыя, што справа, ішлі ў белых строях;
Тыя, што зьлева - ў жалобных апонах,
Са сьвечкамі йшлі і трымалі іх к долу
Полымем.
Сьвечкі гарэлі, як золата стрэлаў.
А хто безь сьвятла йшлі, што па правіцы,
Кожны нёс кветкі ў руцэ замест сьвечаў.
Зірнуў я на твары, і шмат мне знаёмых,
Зьлякаўся, бо ўсе, як скала, нерухомы.
Потым справа выходзіць асоба адна,
Праз заслону сьвецяцца вочы яе давідна.
Стала пры мне. Потым выбег хлапчына
І заклінае падаць хоць грашыну
Дзеля айца. Даў яму грош, а яна - удвая.
Даў яму зноў, яна зноў удвая.
Зьбегліся людзі, мы золата шнарым,
Хто з нас дасьць болей, даёмы шукаем.
Стыд нам! Ужо далі ўсе, што мелі пакункі.

Людзі лаюць хлапца: “Аддай ім, жартунчык!”
“Аддам,- кажа хлопец, - ежэлі жалка.”
Але назад прыняць мы ўжо не хацелі,
Постаць жагнала мяне рукой белай.

Потым слонца ўзышло, сьнег ня згінуў,
Але, як птах белы, скрыдлы разьвінуў
І паляцеў; усё неба адкрылася,
А навакольле цёплым блакітам зрабілася.
Учуў пах Італіі, руж і язьміну,
Ружамі пахнула гара Палятыну.
Зьявілася Эва,
У белай сукенцы, убраная ў ружы,
Як на Альбаньскай гары тая відзежа...
Таньчаць між ёю адной матылі,
Здалося - узносіцца і не кранае зямлі.
Пекнасьць у твары, як Прамяненьне Паньскае,
Зрок утапіла ў возера Альбаньскае.
Спакойна глядзіць і ня рушыць павекаў,
Як бы ў тэй глыбі блакітнай, далекай.
Адбітак аблічча свайго назірала,
Прад возерам ружы рукой папраўляла,
Хацеў прывітаць, але сілы ня маю;
Памкнуўся я мовіць - не прамаўляю.
Але раскоша мая, ах, раскоша сонная!..
Хто ж раскажа? - яна мацнейшая ад дзённай,
Сьлязьней і мілей, бо ява - жар слонца,
А сон - ціхі месяц, лагоднасьць.
Нарэшце ўзяў за руку яе збоку,
Зірнула яна ка мне з сумам у воку,
Ціха прамовіў: "Сястра мая,
Чуецца шчасьце так дзіўна, глыбока
Мне ў тваім зроку,
Што здаецца мне, ест у касьцеле."
Яна мне сказала з усьмехам дзіцячым:
“Бацькі мае хочуць зь іным мяне сватаць,
Але я мару ластаўкай лётаць!
Маю я скрыдлы, зірні, які птах зь мяне!
Вось палячу свае пёры паплюхаць у Немне.
Аб усіх тваіх прыяцелях ведама мне, іх здарэньнях,
Усе па касьцёлах ляжаць у скляпеньнях,
Мушу ў лясах і вазёрах блукаці,
У дрэў папытаць і на зёлках гадаці.
Яны аб табе рэчы дзіўныя ведаюць,

Пра ўсё, дзе бываў, што рабіў, апаведуюць."
Слухаў, і мне не здавалася цёмнай
Мова яе, хоць так дзіўна й таемна.
Мне падалося: я сам магу лётаць,
І папрасіўся я ўзяць у палёт мяне.
Толькі зьлякаўся, бо хоча на долы ісьці,
Пра мяне пытаць дрэвы, кусты.
І прыпомніў я раптам базэрствы,
Хвілі пустоты, запады шаленства.
І чулае сэрца на часткі разьдзёрта было,
Што ані каханьня, ні неба ня варта яно.
Потым убачыў я ластаўку ў лёце,
Ляцела за ёй як бы войска чарноты,
Сосны і ліпы, чабры і палыны
Сьведчылі проці мяне мае віны.

Прабудзіўся абліччам я к небу,
Накрыж рукамі, як бы да пагрэбу.
Сон мой быў ціхі. Цяклі яшчэ сьлёзы
Часта па твары, пахнулі сьвежым
Пахам Італіі, пахам язьміну
І гор Альбаньскіх, і руж Палятыну.

*Вершы гэтыя былі пісаны як прыходзілі, бяз намыслу і паправак.*
*(Заўвагі Паэты)*

Пераклад зроблены Ганнай Матусэвіч
13 – 16.III.2000 на начных дзяжурствах вартаўніка ў школе № 1

## ***ЛІТВА***

Літва надыдзе непрыкметна,
Як настае вясна, ці лета, ці зіма,
Пра тое ўведаюць Паэты
І вестку прынясуць, як птушкі на скрыдлах.

Літва, Зямля і Сонца, і Сусьвет…
І вось мы ўжо ўзьлятаем у Бязьмежжа
І, з Творцам зьлітыя, ствараем сьвет
Празрысты, ясны, непадкупны, незалежны.

Мая Літва хай стане Нашаю Літвой!
І Нашай Воляй, Нашай Явай,
Заранкаю, што добраю парой
Зьвястуе сьвету Новы Дзень бяз хмараў!

19-24.XII.2000

## ***АБВЯШЧЭНЬНЕ***

*Веды без Каханьня мёртвыя.*

*Лісьце Саду Морыі (Кліч) , верш 189*

Я абвяшчаю вам Каханьне
На ўсё жыцьцё,
На ўсе вякі вякоў
І не прашу ў вас прызнаньня;
Я абвяшчаю вам Каханьне,
Як вечны мір, як вечны бой!

Я пакараю вас Каханьнем
На ўсё жыцьцё,
На ўсе вякі вякоў!
Хай будзе Сьветла вам і на расстаньне
Са сьветам гэтым,
З нашаю Зямлёй!

Я вызваляю вас Каханьнем
Ад страху, пошасьці, хлусьні.
Сябры мае! Я вас кахаю,
А ворагаў люблю сваіх.
Я абвяшчаю вам Каханьне

На сёньня, заўтра, назаўжды..

*Верш напісаны на наступны дзень*
*па наведваньні выставы карцін Мікалая Рэрыха*
*ў музэі ВОВ у Менску*

19.I.2002.

*Езус Хрыстус Сказаў:*
*Я Перамог сьвет!*

Цяжка чакаць вам?
Ды цяжай мо Нам
Бачыць бяз даху
Усё яшчэ Храм,
І як на вяршыкі
Здрабняюцца Вершы,
І як апошнім
Становіцца Першы.

12.IX.2002.

* * *

Мы з табой удваіх ля вагню не сядзелі,
Ты пужаўся вагню, я ішла на Вагонь.
Дык чаму ж тады нашыя душы трымцелі
На ляту неўзнарок зачапіўшы крылом аб скрыдло?

Гэты страх першабытнага, першага, дзікага
Чалавека ўсё ж, не ваўка, і тым больш - не раба
Разумею, бо вяла я з аселіцы раптам прыціхлага
Пад рукой маей неаб'езджанага каня да сяла.
Ты параіў мне: "А з канём гэтым будзь асьцярожна!"
Я ж ня ведала для чаго мне той конь?
Ні ўзараць на ім, ані засеяць…
І сэрца балела трывожна,
Бо гарэў там і пёк мяне вечны вагонь!
Ёсьць дваякі вагонь: і пунсовы, і сіні;
Сіні гоіць, з пунсовага - гнеў.
А табе я параджу: уведай вагнёвую сілу
І Вагонь прыручы, як наш продак умеў.
Я ня ведаю, ці  будзем сядзець мы
Калі-небудзь з табой удваіх ля Вагню…
Ты і вольны, і дзікі, а мною валодаюць карма і тэрміны,
І твае біярытмы свавольныя аніяк не пасуюць настрою майму.

20.X.2002.

*Ахвярую Марыне Мускай*

## *БЛІЗКАМУ ЎЖО ЗЬВЕСТАВАНЬНЮ*

Не люблю анікога,
Бо Кахаю ўсіх;
Не жадаю нічога-
Маю больш за ўсіх.

Узьлятаю да Неба,
Бо хаджу па зямлі
І ня маю патрэбы
Ў славалюбстве зямлі.

Будзе тое, што БУДЗЕ,
Будзе Неба й Зямля,
Будуць роўнымі людзі,
Як і Неба, й Зямля.

Я сказала Вам многа,
Шмат сказаць не магу.
Мо стаю ля Парогу…
Мо ўсе мы – на Шляху…

15.II.2004.

## ***ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ***

Ластаўкі лепяць гняздо
На нашым зальным вакне.
Што тут будзе, Адаме?..
Ці хваце нам сілы, Максіме?..
Позна ўжо, лета ў зеніце,
А ластаўкі лепяць гняздо,
Будзяць нас на сьвітанку.
Гэта ўсё ж недарэчна – гняздо на вакне!
Ну чаго, чаго ж захацелася вам?
Можа мейсца ў гнязьдзечку старым
Не хапіла для дзетак, для волі?
Папрасіла я хатніх не бурыць іх гнязда.
Няхай йдзе ўсё, як ідзе,
І хай будзе ўсё, як БУДЗЕ.
О, як пекна цьвітуць БАЛЬЗАМІНКІ –
БРАЦТВА, якое заўсёды жыве на Літве!
Ластаўкі лепяць гняздо –
Гэта радасьць нам і трывога…
Ластаўкі выбралі нас,
Як буслы абіраюць шчасную хату.
Шмат у Бога ўсяго,
І ў Бога ўсё-ўсё магчыма!
Сьветла верыць і Радасьць чакаць,
Проста жыць Адзінай Ліцьвінкай у сьвеце.

10.VII.2004.

*Ля брамы нашай*
*На  Сёмуху*
*Цёця Карольця*
*Плакала па Зоні Сьвятой,*
*Пэўне гэтак жа,*
*Як Адам Міцкевіч па Літве...*
*Нашыя яны:*
*І Карольця, і Зоня,*
*І Сълёзы, і Адам,*
*І Літва...*
*Толькі словамі*
*Немагчыма апісаць Вострай*
*Гэтак жа,*
*Як і Брацтва на Літве...*

*8.VI.2003.*

*Алёйзаму Суднiку,*
*праўдзiваму Мужчыну i*
*годнаму прадстаўнiку*
*нашага роду*

Рыцар Алёйзы ў нашым засьценку!
Рыцар праўдзiвы, з самое Лiтвы!
Раптам зьявiўся нам у паняверку,
Цэлы, здаровы, як наша зямелька, папраўдзе жывы!

Божанька! Любы! Ты нам яго выправiў,
Каб ў свае сiлы паверылi мы!
Роду шляхэцкаму нашаму Суднiкаў
Нiбыта карону прывёз з-за мяжы!

Чым Вам аддзячыць, рыцар Алёйзы?
Хiба што вершам, пiсаным для Вас,
На мове Лiтоўскай, Вам незнаёмай…
Душа, ды ня мова, зьнiтоўвае нас.

Рыцар Алёйзы! Брат па Каханьню,
Па веры i працы i па крывi!
Веру: хутка надыдзе нашае Раньне!
Рушаць Лiцьвiны ў Сусьвет ад Лiтвы!

21.XI.2004

*Мудра сказана пра шчасьце таго, хто аддаў душу сваю за братоў сваіх. Часта гэты запавет выконваецца як самаахвяраваньне жыцьця, аднак жа не сказана ні пра жыцьцё, ні пра цела, але пра дух. Тым самым дадзена заданьне найцяжэйшае і найдаўжэйшае. Каб аддаць душу, трэба адукаваць, пашырыць ды выкшталціць яе, тады можна даць яе за збавеньне блізкага свайго.*

*Агні-Ёга, Ерархія, верш 340.*

## КОСТУСЮ КАЛІНОЎСКАМУ

Дзень Страты Нашай,
Дзень Зьвеставаньня,
Вялікадня Дзень,
Мы – Літва Белая, ня сьцень!
Боль абернецца
Нашай Воляй,
Страта – Памяцьцю
Пра Былое…
Хто быў большы –
Здалёку ня ўбачыць;
А ўлада ў таго,
Дзе ахвяры найбольш.
Мой ты Шляхціц найлюбы!
Суворы Літоўскі дыктатар!
Бога ты пакахаў,
І цябе кахаў Бог.
Са Сьвятымі спакою
Табе не жадаю,
Проста ведаю:
Гэткім, як ты – неспакой.
А суцешыць – суцешу:
Тыя не паміраюць,
Хто за нашую й вашую
Вольнасьць Душу аддаюць.
Гэроі вяртаюцца зь Неба
На Літву Нашу зноў,
Каб Яе ўратаваць
Ад прыгнобленых, сьлізкіх,
Зласьлівых і шэрых,
Каб Сусьветны Агонь
На Літве заснаваць!

28.II.2005 – 26.I.2011.

*Na Kazimieža zima umiera,*
*A na Świentego Gžegoža*
*Zima jidzie do moža.*

*Мама казала.*

Завіруха.
Сьняжынкі б’юцца ў шыбы,
Як белыя птушкі,
Ці духі,
Што цярушаць нам зь Неба Красу.
Сіні вечар
Ступае пры шаблі,
Апрануты ў контуш,
Як рыцар,
Што да панны ідзе ў сваты.
Уночы
Завіруха сьціхае.
Ды зорак яшчэ не відаць над Літвой.
Напрарочу
Пра Ясную Зорку Венэру
І пра Дзень Зьвеставаньня,
Хто чуе – усім.

4.III.2006.

*Вопрос: Может ли явление вековой связи раствориться?*
*Ответ: Ничто вековое, принадлежащее одному началу, не может теряться.*

*"У Порога Нового Мира"*

МАЛІТВА

Матачка Боская Літва Астрабрамская
У нашых народаў Адна.
Толькі з Тваёю Дапамогай ды Ласкаю
Мы паўставалі, ішлі да Сьвятла.

Звон малітоўны зьбярэ заблуканых
Ў розных абшарах людзей.
Сонца вясновае на Зьвеставаньне
Згоніць брыду і зазьзяе ярчэй.

Матачка Боская Літва Астрабрамская,
Да Цябе прыпадаю: Узыдзі на Пасад!
Толькі з Тваёю Апекай ды Ласкаю
Мы ўзгадуем, расквецім Наш Сад.

15.III.2006.

***

Дождж у змроку –
Гэта ж ня сьнег уначы,
І новы год – не Каляды.
Пра СВАЁ памаўчы, памаўчы.
І нашто Табе, Ганна, зямныя прынады?
Ну німа – і ня трэба!
І буду Адна.
Панясу цэлы сьвет ў сваім сэрцы!
Можа вырасьце Ён, пакахае Яна,
І ня будзем мы жыць ў паняверцы.

1.І.2007. 20:13

***

Плакала Цёця Карольця
Па яблыні, бурай зламанай,
І сьлёзы яе на Літоўскім грунце
Яблыкамі недасьпелымі
На галіне абарванай ляжалі.

Ах, каб быў гаспадар у хаце
Ды падпёр яблынь цяжкія галіны!
Не было яго – і сьлёзы цяклі па сьвеце,
Сьлёзы жаночыя
Горкай тугі адзінай.

Плакала ў Хаце Жанчына
Цэлую ноч наварочную,
Прыпамінаючы, як яна кленчыла
Прад маскалямі п’янымі,
Вугольле гневу ў душы варочала.

Жанчыны Літоўскія!
Нашай Зямлі Жанчыны!
Разам паплачце, і верце, і ведайце:
Сьлёзамі Вашымі дзейснымі
Будзе ўратавана Айчына!

03.I.2010